Ала ЯЦКОВА



# Адчыненыя дзверы

*Вершы*






Брылі 2007

*   *   *

***Злячу на дол лістом апошнім,***
***І зашуміць самотна верас.***
***Бялюткі снег накрые пожні,***
***Агорне ноч расстання бераг.***

***І зарыпяць,***
***застогнуць  дзверы***
***У неабсяжную адвечнасць,***
***І разляціцца стос паперы,***
***І скразняком задуе свечку…***

* * *

***І узнікае слова на паперы,***
***Затым - радок,***
***Як быццам праз адчыненыя дзверы***
***Дзьме халадок.***
***І чым бліжэй доўгачаканы бераг,***
***Тым усё часцей***
***Радкі кладуцца на лісток паперы***
***Яшчэ… яшчэ...***

*   *   *

***Без цябе ў віру майго адчаю***
***Гіне час,***
***У цябе каханне пазычаю***
***У адказ,***
***Без цябе самота развітання***
***І  снягі,***
***Пад ільдом хаваюцца кахання***
***Берагі...***

*   *   *

***У той, забыты Богам сад,***
***Дзе добра нам было калісьці,***
***Ужо не вернешся назад…***

***Шукаць цяпер не трэба выйсця --***
***Праз невыносную імжу***
***Там шамаціць сухое лісце***
***Ад  кропляў шэрага дажджу…***

* * *

*Захочаш шчасця -*
*бяду*
*спаткаеш,*
*Каханне знойдзеш -*
*ману*
*спазнаеш,*
*Спяваць захочаш -*
*і анямееш,*
*Узляцець захочаш -*
*акамянееш...*

***К р а к а ў с к і м а т ы ў .***

***Па бруку стагоддзяў
Апошнія крокі.
Хвіліна - другая --
І зменіцца час.***

***Схаваецца Вавель
У шэрых аблоках,
І зноўку дарога -
Да дому,
да нас...***

# Змест





На правах рукапісу

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Яцкова Ала Міхайлаўна

# АДЧЫНЕНЫЯ ДЗВЕРЫ
*Вершы*

Рэдактар - М.А.Яцкоў
Фармат 14,85х10,5.
Гарнітура Times New Roman.

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*№ 26*
*2007 г.*
213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь
bryli@mail.ru



*Ала Яцкова -- паэт.*
*Жыве і працуе ў вёсцы Брылі Магілёўскага раёна.*

